# Дняпроўская СТРОМА



**№ 17** лютых 2013 г.



Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»






Вянок памяці

# АНОШКІН Іван Архіпавіч

## 21.01.1928 - 3.02.2013





MEMORIA

## ПАМЯЦІ ІВАНА АНОШКІНА

**У ноч з 2 на 3 лютага ў сваёй кватэры, што на магілёўскім праспекце Міра, на 86 годзе жыцця спачыў у вечнасці аўтар шматлікіх зборнікаў прозы, вершаў, газетных публікацый пісьменнік, сябар СБП Іван Аношкін.**

Галоўным прынцыпам жыцця Івана Архіпавіча быў дэвіз «Зломіш, але не сагнеш». Да свайго апошняга дня ён заставаўся абаронцам беларускага слова.

Нарадзіўся Іван Архіпавіч Аношкін 21 студзеня 1928 года ў вёсцы Антонаўцы Чавускага раёна Магілёўскай вобласці. Пісаць па-беларуску пачаў яшчэ школьнікам. Першыя яго творы з'явіліся ў друку ў 1946 годзе. Першы ж зборнік апавяданняў і гумарэсак «Лішні мінус» выйшаў у 1959 годзе.

Развітацца з Іванам Архіпавічам прыйшлі калегі-літаратары, сябры ТБМ, а таксама колішнія маналетнія вязні канцлагера «Азарычы», у якім ледзь выжыў будучы пісьменнік (і дзе памерлі два яго малодшыя браты — Яўген і Мікалай; старэйшы ж брат Дзмітры загінуў у партызанах).

Старшыня абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Мікола Яцкоў адзначыў прынцыповасць, з якой Іван Аношкін адстойваў свае погляды: «Калі ўзнікла сітуацыя з тым другім Саюзам — Саюзам пісьменнікаў Беларусі, які адпачкаваўся ад старога Саюза беларускіх пісьменнікаў, і калі яму прапанавалі перайсці ў новы саюз, ён адказаў, што нікуды не пойдзе. Казаў: «Я хачу застацца ў Саюзе, дзе быў Якуб Колас, Янка Купала, дзе ўсе мае аўтарытэты, якіх я ведаю, якіх я памятаю». Мова ягоная заўжды была вострая і афарыстычная. Ягоныя фельетоны, як гаворыцца, заўжды білі ў вока».

Пахавалі Івана Аношкіна 4 лютага на паўднёва-ўсходніх могілках Магілёва.

Сакратарыят ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і Магілёўскае абласное аддзяленне СБП смуткуюць і выказваюць спачуванні родным і блізкім Івана Архіпавіча.

Вечная памяць!

**Прэсавая служба СБП**

## Памяти товарища

**После тяжелой болезни умер член союза писателей БССР Иван Архипович Аношкин.**



Иван Архипович родился 21 января 1928 года в д. Антоновка Чаусского района Могилевской области в крестьянской семье.

На его долю выпало тяжелое детство и отрочество. В годы Великой Отечественной войны 1941-1945 годов, будучи подростком, он находился в концентрационном лагере смерти «Азаричи».

После войны закончил Суражское педучилище и работал воспитателем детского дома на Брянщине, ответственным секретарем суражской районной газеты «Маяк коммунизма», директором начальной школы в Жабинковском районе на Брестчине, там же - ответственным секретарем районной газеты «Ленинский путь», корреспондентом областной газеты «Заря».

После окончания республиканской партийной школы при ЦК КП Белоруссии редактировал чериковскую районную газету «Сацыялістычная перамога», с 1959 г. литсотрудник, а с 1968 года заведующий отделом областной газеты «Магілёўская праўда».

Им написано более 10 книг разного жанра: фельетонов, повестей, юмористических рассказов, в том числе: «Лішні мінус» (1959), «Старыя знаёмыя» (1963), «Брантазаўр» (1973), «Навічок» (1966), «Алёнчын сакрэт» (1969), «Компас паказвае на захад» (1976), «Землякі» (1978) и другие.

После выхода на пенсию работал секретарем областного отделения союза писателей Белоруссии.

В последние годы под его редакцией вышли книги: альманах «Дняпроўскія хвалі», «Запавет нашчадкам», «Шляхамі лёсу».

До последних дней он выступал в печатных СМИ с рассказами, очерками, эссе.

Светлая память о замечательном человеке, патриоте Беларуси, активном пропагандисте белорусского языка навсегда останется в сердцах всех, с кем он работал, кто его знал.

**Члены литературного объединения «Ветеран», сотрудники редакции городской газеты «Веснік Магілёва» приносят глубокие соболезнования родным и близким покойного.**

**Вясковы хлопец стаў пісьменнікам, і не проста пісьменнікам, а беларускім пісьменнікам. Ён выбраў сабе сцяжыну — сатыра і гумар. Не так проста ў наш час — і ў савецкі час, і цяпер — быць пісьменнікам-сатырыкам.**

*Валерый БЕРАЗІНКА, прафесар.*

**Іван Аношкін быў сярод заснавальнікаў у Магілёве ў 1989 годзе Таварыства беларускай мовы. Ён усё рабіў, каб беларуская мова не засталася толькі кніжнай. Гэтай вялікай місіі ён служыў усё жыццё. Быў заўжды ў народзе. Сустракаўся з дзецьмі ў дзіцячых садках, школах, бо менавіта адтуль якраз і прывіваецца роднае слова.**

*Яраслаў КЛІМУЦЬ, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ імя Ф.Скарыны.*

**Ён належыў да нешматлікай, але вельмі каштоўнай кагорты беларускіх нацыянальных інтэлігентаў. Высілкамі такіх людзей захоўваюцца мова, краіна, успамін пра нашу велічную гісторыю. Заўсёды сціплы, таленавіты чалавек, ён да апошняга ўдзельнічаў у сустрэчах з чытачамі. Самаахвярна працаваў у грамадскім „Гарадскім магістраце“ — займаўся вяртаннем гістарычных імёнаў нашым вуліцам.**

*Сяргей БРЫЦІКАЎ, грамадскі дзеяч.*

**Засталіся кнігі Івана Аношкіна і засталіся ўдзячныя ўспаміны пра гэтага цудоўнага чалавека. Ён ішоў заўсёды наперад, захінаючы ўсіх нас ад сцюдзёных вятроў жыцця чулымі словамі праўды і дабрыні.**

*Мікола ЯЦКОЎ, пісьменнік.*

№ 17 люты 2013 г.

# Вянок памяці
# Сакрат ЯНОВІЧ
## 4.09.1936 - 17.02.2013





**17 лютага 2013 г. каля поўначы ў сваім доме ў Крынках памёр Сакрат Яновіч. Яму было 76 гадоў.**
**Сакрат Яновіч — пісьменнік, інтэлектуал, адзін з лідараў беларускай меншасці ў Польшчы.**
**Сакрат Яновіч нарадзіўся 4 верасня 1936 года ў Крынках на Беласточчыне.**
**Працаваў перакладчыкам у тыднёвіку беларусаў Польшчы «Ніва», а затым журналістам. У 1970 г. быў звольнены з «Нівы» «за беларускі нацыяналізм», застаўся беспрацоўным, нейкі час працаваў грузчыкам, тэхнікам бяспекі працы. У 1973 г. скончыў завочны факультэт польскай і славянскай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Аўтар 30 кніг.**
*ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" смуткуе і выказвае спачуванні родным і блізкім памерлага.*

Вельмі я здзівіўся, калі напачатку 1995 года атрымаў запрашэнне з Варшавы на ўдзел у фестывалі сучаснай паэзіі “Art Zine Show”. І калі туды прыехаў, даведаўся, што рэкамендаваў мяне зусім невядомы мне ў той час чалавек – Сакрат Яновіч. Мне зрабілася цікава, і я даведаўся, што жыве гэты чалавек на Беласточчыне у мястэчку Крынкі, якое недалёка ад беларускай мяжы. Па нацыянальнасці беларус. Вядомы літаратар і грамадскі дзеяч. Пільна сочыць за варушэннямі беларускай літаратуры. І аднойчы, убачыўшы маю нізку вершаў у часопісе “Маладосць”, адправіў мяне на той варшаўскі фэст...

Потым паміж намі завязалася сяброўская перапіска, а ўбачыліся мы толькі праз восем гадоў – на міжнароднай сустрэчы “Беларускі Трыялог” у ліпені 2003 года. І калі мае нататкі пра гэту сустрэчу надрукаваў часопіс “Край”, было вельмі прыемна бачыць ланцужок назваў: *“Брылі, Беларусь – Крынкі, Польшча”...*

Сакрат Яновіч – з’ява непаўторная. Ён быў заўсёды ў няспынным руху. Ён, не стамляючыся, біўся за беларускаць на польскай Беласточчыне, бо гэта спрадвеку была беларуская зямля і жылі там беларусы. Ён кожны раз па-юнацку ўглядаўся ў навакольны свет. І, дзіўным чынам валодаючы беларускім словам, адразу і незваротна забіраў чытачоў у непаўторныя глыбіні сваіх твораў…

... У Беларусі некалькі сэрцаў.

Адно з іх, гарачае і чуйнае, нястомна білася ў беластоцкіх Крынках на вуліцы з легкакрылай назвай Сакольска ў доме, дзе жыў дзіўны чалавек – Сакрат Яновіч.

Ён адышоў у лепшы свет, але яго нае сэрца будзе няспынна і вечна біцца ў грудзях Беларусі, напаўняючы наша жыццё ясным разуменнем таго, што было, што ёсць і што будзе.

За гэта спадару Сакрату – вялікі дзякуй.

*Мікола ЯЦКОЎ.*

## Сустрэчы ў Крынках. Жнівень 2003 г.

*Фотаздымкі Міколы Яцкова і Алы Яцковай*
Друкуюца ўпершыню.






Мікола Яцкоў і Сакрат Яновіч ля дома Яновічаў на Сакольскай у Крынках


У рабочым кабінеце Сакрата Яновіча


Удзельнікі “Беларускага Трыялога”


Сакрат Яновіч і журналісты


Ала Яцкова і Таня Яновіч


Удзел у здымках фільма на гістарычным полі ля Крынак



ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ
САКРАТ **ЯНОВІЧ**

# Вянок памяці
# Сакрат ЯНОВІЧ

1995-05-30.
Крынкі.

Паважаны Мікола Яцкоў,
прыемна мне было атрымаць ад Вас пісьмо, дзяку-
ючы якому я маю большае ўяўленне пра Вас як асобу.Тое, што ба -
чыў я ў "Маладосці" - рэгулярна дасылае мне яе Нацыянальная Бі-
бліятэка Беларусі - гэта мала і павярхоўна, хоць і таго ўжо бы-
ло больш-менш дастаткова.Самае галоўнае, што ў вашай душы зіхац-
іць залатое зерне таленту, і што Вы яшчэ маладыя. А маладым трэ-
ба дапамагаць!Старым ужо не, у іх няма перспектывы.
У нашай літаратуры вельмі спозненыя дэбюты
Гэта нядобра. Гэта сведчыць пра яе мізэрную арганізаванасць і
не вельмі палкі рытм развіцця.
Вам абавязкова трэба пабыць у свеце, прына
мсі ў Польшчы напачатак.Трэба гэта рабіць спакойна, без закамп-
лексаванасці, у якой перш за ўсё вінавачу я сваю маладосць, ну,
так было і не вернеш яе, каб лепей ды разумней паўтарыць.
Такі быў мой час, і мая эпоха.
Вам трэба іначай. Усё іначай. Але памятаю-
чы пра тое, што адбывалася з нашым, з маім, пакаленнем. Я з 36-
-га году нараджэння.Дэбютаваў, аднак, у 56-ым; у дваццацігадо-
вым узросце.Галоўнае, чаго мне тады не хапала, дык гэта адукава
насці.Пасля толькі, завочнікам, закончыў імпэтна амаль два
факультэты.Крыху, усё ж, пазнавата. У асноўным у мяне тэхнічная
адукацыя, электратэхнік з мяне.
Як рэдактар самастойнай літ. старонкі "Бе
лавежа", хачу апублікаваць Ваш "Сцяг".Адначасна прымерваюся і
да Вашага цыклу "Аб радзіме".Мне трэба ведаць ад Вас, ці публі
каваліі Вы дзе нешта з г. цыклу.І ці займаецеся прозаю? Ціка-
вяць мяне кароткія формы. Каб добра разумецца нам, спрабуйце за-
зірнуць у нейкую маю кніжку, хаця б з ліку тых, што выйшлі ў
Мінску або знаходзяцца ў абласных бібліятэках /"Сярэбраны яздок"
"Самасей", "Доўгая сьмерць Крынак", "Лістоўе"/.
Вы маладыя, а я даў афіцэрскае слова яшчэ
пажыць, і мы абавязкова пабачымся некалі.А пакуль што давайце
супрацоўнічаць.
Шчыра Ваш — Сакрат Яновіч

2002-06-28.
Крынкі.

Паважаны Мікола,
Усё ад Цябе я атрымліваю, і паэмку тую таксама. На жаль, час у мяне настаў благі, але, пачытаўшы "Прыдняпроўскую ніву", рады я, што маеш маладыя сілы ды нясціхана працуеш.
Я, таксама, сёе-тое раблю: выпускаю "Год Беларускі", аб якім Ты ведаеш, бо дасылаю Табе /не памятаю толькі, ці даслаў за 2002-ы; калі не, дык дай знаць/. Цяпер жа дасылаю кніжку Чобата, якую я сам рэдагаваў. Цікавы ў ёй погляд на даўнюю і нядаўнюю гісторыю.
Трохі ўпала мая актыўнасць. Рыхтуюся дзеля аперацыі сэрца.Прадбачваецца на ліпень, хутчэй у другой палове.
Сёлета, у наша лета, нічога не арганізую, аніякіх трыялогаў, не толькі таму, што слаба сам пачуваюся, але і спонсары абанкруціліся; трэба шукаць новых. Яны будуць, але калі!? Калісьці было лепей,хоць і падцэнзурна. Калі выпрасіў тады якія грошы на справу, дык яны былі гарантаванымі. А цяпер жа свабода, чаўпі што хочаш абы ў законе, але дэмакратычная дзяржава цікавіцца толькі падаткамі. Эканоміка мае круціцца сама, на сваю рызыку.Нічога і ніхто табе не гарантуе. Таму капіталізм добры ёсць людзям энергічным, спрытным, а не такім фраерам, як я. Акрамя таленту думаць, трэба яшчэ мець талент знаходзіць грошы. Гэтыя грошы ёсць, іх нават поўна, бо эканоміка шпаркая,але не на маю псіхіку. Мне трэба мэцэнат, як кожнаму, жыццёва бяздарнаму, паэту.
Ідзе змена пакаленняў. І ў вас тое будзе. Ужо відаць, што незадоўга. Бачу тое нават па выглядзе вуліцы, моладзі, як і па тым, як вяліз - най плынню едуць з Беларусі ў Польшчу і далей аўтамашыны з маладымі людзьмі. Заўчора быў я завезены на адзін дзень у Мінск на ўрада - вую ўрачыстасць; запэўнілі мне поўны камфорт з увагі на здароўе і толькі таму я пагадзіўся ехаць на тую афіцыёзную нудоту. Прыглядзеўся да тратуарнай публікі ў Мінску; сваім выглядам яна не адрозніваецца цяпер ад варшаўскай. Асабліва дзяўчаты: поўны шык!
Яшчэ напішу да Вас, як толькі акрыяю.Мушу акрыяць!
Вітанні Усёй Сям'і! — Сакрат.

Паважаны Мікола Яцкоў,
перш за ўсё дзякую Вам за юбілейныя віншаванні і добрыя пажаданні!
Час-часом змяшчаю Вашы творы ў нашай літаратурнай старонцы "Белавежа". У кастрычніцкі яе нумар пускаю "Падручнік гісторыі" /"Раскажы мне, цудоўная кніга" .../. Выразкі - пасля публікацыі - дасылаю Вам, у хатні альбом.
Дашліце мне песні, якія жадаеце, а выканаўцаў я падшукаю; ёсць магчымасці.Вядома, не ў маіх спаланізаваных Крынках, як і ў вашай русіфікаванай ваколіцы ...На жаль, беларуская культура нагадвае сабою той усё яшчэ квітнеючы куст, карэнні якога парахнеюць.Множацца паэты, меншыцца чытач; цяпер прадаць у нас публічна дзесяць экз. беларускамоўнай кніжкі мяжуе з цудам. Дваццацю гадамі назад разыходзілася тысячамі штук. Як доўга можа ўтрымацца нацыя, якую бесперапынна і фанатычна зніштажаюць? Гэта і так цуд, што яе рэшткі пакуль захоўваюцца. Даведзена да таго, што сама яна ўжо сябе ненавідзіць! Дом вар'ятаў!!! - - -
У нас дэнацыяналізацыя ідэнтычная, як і ў вас, і столькі тае розніцы, што за беларускае слова не б'юць у морду, а нават, апошнім часам, падтрымліваюць беларушчыну, бо аганізуе; а Мінску напляваць на наш лёс тут, а Варшаве трэба аргумент - беларускі - каб успамагаць польскую меншасць у РБ.У міжнароднай палітыцы нічога задарма - мы в а ш ы м беларусам у сябе, а вы н а ш ы м палякам у сябе тамака.
Столькі дзеля яснасці ды супрацьдзеяння салодкім міфам.
Крынкі, 18 верасня 1996 г. Ваш — Сакрат.






P.S. Вітанні дружыне — ад мяне.
Паважаны Мікола,
з лепшым Новым 1997 Годам,
Без надзеі няма як жыць.
Песню атрымаў, дзякую.
Час-часам хачу друкаваць
Вашы песні. Дасылайце.
Ці хто імі зацікавіцца, пабачым.
Я буду прынагодна рэкамендаваць.
— Брылі, мусіць, вельмі малая мясцінка,
бо не знайшоў яе нават на карце
Магілёўскага раёна ў „Беларускай Энцыклапедыі"!
Крынкі, 19.XII.96. З Калядою! — Сакрат.

wszelkie prawa zastrzeżone
POLSKA 70 gr

BIAŁORUŚ
БЕЛАРУСЬ
Сп. Мікола Яцкоў —
п/а БРЫЛІ
Магілёўскі раён
Магілёўская вобл.
213107

Вянок памяці

# ПЕХЦЕРАЎ Іван Ягоравіч

## 8.01.1938 - 9.02.2013



**9 лютага 2013 г. на 76 годзе жыцця перастала біцца сэрца вядомага на Магілёўшчыне паэта – Івана Пехцерава.**

**Іван Ягоравіч – член Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат прэміі Магілёўскага аблвыканкама «Чалавек года - 2002», прэміі Магілёўскага гарвыканкама «Дасягненне», літаратурнай прэміі імя Аляксея Пысіна.**

**Нарадзіўся Іван Пехцераў 8 студзеня 1938 г. у вёсцы Нядведзь Клімавіцкага раёна ў сялянскай сям'і. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржуніверсітэта. Працаваў у газеце Кастрамской вобласці, на студыі тэлебачання ў Комі АССР. У 1970-х гадах вярнуўся на радзіму. Працаваў на абласным радыё, друкаваўся ў раённых і абласных выданнях. На працягу двух дзесяткаў гадоў Іван Пехцераў актыўна супрацоўнічаў з абласной газетай «Магілёўскія ведамасці», прадстаўляў на старонках выдання шматлікіх пачаткоўцаў паэтаў і пісьменнікаў, аказваў ім падтрымку ў творчасці.**



**Першы зборнік яго вершаў «Лебедзі ляцяць на поўнач» вызначыў тры галоўныя кірункі ў творчасці паэта – Радзіма, Вера, Любоў. Іх Іван Ягоравіч пранёс праз усё творчае жыццё. З-пад пяра паэта выйшла 14 кніг вершаў і паэм, дзве дакументальныя аповесці і два зборнікі нарысаў. На вершы І.Пехцерава напісана больш за 50 песень, якія гучалі на расійскім і беларускім радыё і тэлебачанні.**

**Аматарам паэзіі і прыхільнікам творчасці Івана Ягоравіча будзе не хапаць сустрэч з гэтым выдатным чалавекам, які так горача любіў свой родны горад, яго жыхароў і сваю Беларусь. Памяць пра Івана Пехцерава будзе захоўвацца ў іх сэрцах заўсёды.** *(“Магілеўскія ведамасці”)*

**З Іванам Ягоравічам Пехцеравым я пазнаёміўся даўно – ад пачатку 1980-х, калі ён працаваў рэдактарам Магілёўскай раённай кінафікацыі, а я кінамеханікам у Брылях. Больш шчыльна мы сышліся на пачатку 90-х, калі я пачаў пісаць песні на вершы гэтага цудоўнага паэта. І ад тых часоў у выніку нашай сумеснай творчасці нарадзілася больш за 30 песен і песенная кантата “Бесстрашный солдат Могилёв”.**

**Іван Пехцераў – паэт вельмі сонечны. Ён нават сумаваў заўсёды ўзнёсла і светла. І валодаў рэдкім дарам адчуваць радасць жыцця і казаць аб гэтым зразумела і вобразна. Ну, а мы, вядома, далучаліся да гэтай радасці – і свет паўставаў ў новай афарбоўцы. І хочацца, каб адчуванні гэтыя не знікалі. Мусіць, у гэтым і ёсць прызначэнне паэзіі – не зачыняцца ў сваёй красамоўнай абранасці, а ісці да людзей і саграваць ім сэрцы.**

**Як і ў кожнага сапраўднага паэта, у Івана Пехцерава быў даволі складаны лёс, дзе хапіла месца ўсяму – і радасцям, і нягодам. Здаецца, самым складаным для яго быў момант выбару, калі ўтварыўся новы Саюз пісьменнікаў Беларусі і трэба было вызначыцца – застацца са сваімі даўнімі і блізкімі сябрамі Рыгорам Барадуліным, Янкам Сіпаковым і Генадзем Бураўкіным ці пакінуць іх. Іван Пехцераў выбраў другое, кіруючыся нейкімі, толькі яму вядомымі, меркаваннямі. Гэта быў ягоны свядомы выбар. А мне да сёняшняга дня чуюцца здзіўлена-скрушныя галасы Бураўкіна (*“Як? І Ваня туды падаўся?!”*) і Барадуліна (*“Ох, Яначка, Яначка!..”*), – і нічога ўжо ні паправіць, ні памяняць...**

**Калі на існасць пачынае класціся змрочны цень жыццёвых рэалій, то на дапамогу паэту заўсёды прыходзіць муза паэзіі. І, відаць, значна лягчэйшай рабілася вага Крыжа, які ўладкаваўся на шырокіх плячах Івана Пехцерава. І, здаецца, не такім цяжкім быў яго шлях на яго Галгофу.**

**У кожнага з нас свой Крыж і свая Галгофа...**

**Што такое паэзія? Адкуль, з якога Космасу, прыходзяць радкі, ад якіх і радасць, і слёзы? Ніхто гэтага не ведае. Але ёсць людзі, якія маюць нейкі нябесны дазвол усё гэта чуць і нам пераказваць. І вялікі дзякуй, што сярод гэтых абраных узвышаецца постаць Івана Пехцерава, з дапамогай якога мы слухалі і будзем слухаць голас Неба.**



**Ён жыў шырока і любіў жыццё. І калі перад ім раптоўна і нечакана развінуўся апошні шлях, то мне здалося, што...**



**...Он ушёл босой, простоволосый**
**через луг к манящему закату...**
**Он искал ответы на вопросы,**
**он познал победы и утраты.**
**Он старался быть, а не казаться**
**и всегда говаривал с задором:**
**“Выше нос! Вперёд! Прорвёмся, братцы!, –**
**И пустых не надо разговоров!..”**
**Он любил Поэзию безмерно,**
**без остатка сердце отдавая,**
**завещая нам любовь, надежду, веру,**
**землю эту – без конца и края...**
**И осталась лира безголосой,**
**опустела пехтерева хата...**
**Как всегда, босой, простоволосый**
**он ушёл – в рассветы и закаты.**

**Бывай, Іван Ягоравіч!..**

***Мікола ЯЦКОЎ.***

Фотаздымкі зроблены 27 сакавіка 2008 г.
Друкуюцца ўпершыню.

“ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА”
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь
Магілёўскага абласнога аддзялення
ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”.
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць
за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *20.02.2013 г.. 21.00.*
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.




«Дняпроўская строма» заўсёды на www.kamunikat.org